ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XIX. № 145 Нью Ёрк Мау — Травень New York Vol XIX. №145

## САВЕЦКА-ДЗЯРЖАУНІЦКІ ПАТРЫЯТЫЗМ У БССР

Беларускаму нацыянальнаму патрыятызму ў БССР партыя супрацьстаўляе гэтак званы савецкі патрыятызм, які тэарэтычна базуецца на ідэі інтэрнацыяналізму й дружбы народаў. Але практычна савецкая ідэя інтэрнацыяналізму й дружбы народаў будуецца ў васноўным на расейскай нацыянальнай базе: на базе расейскае мовы, расейскае культуры, расейскае гісторыі й навет расейскага патрыятызму. Не дарма-ж, пачынаючы ад Сталінавага тосту ў 1945 г. за „вялікі расейскі народ", што, паводля Сталіна, забясьпечыў перамогу Савецкага Саюзу ў мінулай вайна, настырліва накідаецца канцэпцыя „вялікага рускага народу" й „старэйшага брата" ды заклікаецца ўсе іншыя народы арыентавацца на гэнага „старэйшага брата".

Якраз дзеля гэтага гэны савецкі патрыятызм зь ягонай хвальшывай ідэяй інтэрнацыяналізму й дружбы народаў і ня мае прыцягальнае моцы сярод беларускага народу, а наадварот, умацоўвае ў гэтым народзе беларускі нацыянальны патрыятызм. Затым у дапамогу агульнасевцкаму патрыятызму і ў супрацьвагу беларускаму нацыянальнаму патрыятызму партыя з усёй настырлівасьцяй падсоўвае канцэпцыю, якую можна назваць беларускім савецка-дзяржаўніцкім патрыятызмам. Гэта — пачуцьцё нацыянальнае гордасьці із самога факту існаваньня беларускае савецкае дзяржавы — БССР ды ейных вонкавапалітычных, эканамічных і культурных дасягненьняў.

На службу гэтага савецка-дзяржаўніцкага патрыятызму пастаўленая перш-наперш савецкая гістарыяграфія ў дачыненьні да гістарычнае мінуўшчыны Беларусі. Паводля гэтае гістарыяграфіі, беларускі народ на зары свае гісторыі быццам тварыў з расейскім і ўкраінскім народамі гэтак званую агульнарускую супольнасьць. Пасьля быў ён быццам-бы заваяваны літоўскімі князямі й знаходзіўся ў няволі літоўскіх фэадалаў, а ад Люблінскае вуніі — польскіх паноў. Але за ўвесь гэты час беларускі народ быццам-бы імкнуўся да задзіночаньня з „адзінакроўным рускім народам". Далучэньне Беларусі ў канцы XVIII стагодзьдзя да царскае Расеі было, паводля савецкай гістарыяграфіі. зьявай карыснай для беларускага народу.

На фоне гэткага прадстаўленьня гістарычнага працэсу, суздром супярэчнага з навуковай праўдай, узьведзеная ў непарушную догму тэза, што быццам толькі ў выніку Кастрычніцкае рэвалюцыі, дзякуючы Камуністычнай партыі й ейнай ленінскай нацыянальнай палітыцы ды пры бескарысьлівай дапамозе вялікага рускага народу беларускі народ упяршыню ў гісторыі атрымаў сваю дзяржаўнасьць. А за гэта ён павінен быць адданым гэнай Камуністычнай партыі й бязьмежна ўдзячным „вялікаму рускаму народу".

Тэза гэтая ў розных адменьніках і сфармуляваньнях густа паўтараецца ў другім томе „Гісторыі БССР" абодвых выданьняў, ў выдадзенай у 1958 годзе Інстытутам філязофіі Акадэміі навук БССР калектыўнай працы „Фарміраваньне й разьвіцьцё беларускай сацыялістычнай нацыі", у іншых гістарычных працах ды асабліва ў публікацыях і афіцыйных выступленьнях на 50-ыя ўгодкі БССР.

Канцэпцыя савецка-дзяржаўніцкага патрыятызму падмацоўваецца галоўна вонкавымі дасягненьнямі БССР. Першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў у сваім артыкуле на 50-ыя ўгодкі БССР, надрукаваным летась у „Коммунисте" ды перадрукаваным у „Коммунисте Белоруссии", пісаў: **„Беларуская ССР выйшла на міжнародную арэну. Яна сябра-заснавальнік Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, удзельнік 90-ёх міжнародных умоваў, канвэнцыяў і пагадненьняў. Апошнімі гадамі рэспубліка брала ўдзел у працы больш за 450 міжнародных канвэнцыяў і народаў. Рад міжнародных сымпозіюмаў і сэмінараў адбыўся ў сталіцы Беларускай ССР".** У запраўднасьці-ж, усе гэтыя дасягненьні БССР у міжнародным жыцьці адно фармальныя, а не фактычныя, і як гэткія, яны расцэньваюцца міжнароднымі палітычнымі дзейнікамі. Не сакрэт-жа, што ў міжнародным жыцьці БССР выступае як бязвольная марыянэтка СССР, і ня было йшчэ выпадку, каб на міжнародным форуме БССР заняла хоць раз самастойную пазыцыю, розную ад пазыцыі СССР.

У галіне эканамічнай у мэтах умацаваньня савецка-дзяржаўніцкага патрыятызму ўсьцяж паўтараецца тэза, што Беларусь з адсталай ускраіны царскае Расеі ператварылася ў край перадавой індустрыі й мадэрнай тэхнікі, а вырабы свае індустрыі вывозіць у больш як 70 краёў. Пры гэтым, дасягненьні індустрыі БССР савецкая прапаганда вымярае, як правіла, раўнуючы да ейнага стану ў 1913 годзе. Выглядае, што калі-б не савецкая ўлада, дык эканамічнае разьвіцьцё Беларусі заставалася-б і сяньня на ўзроўні гэнага 1913 году.

Гэтаксама раўнуючы да ўзроўню 1913 году, вымяраюцца й сяньняшнія дасягненьні беларускае культуры, асьветы, навукі й мастацтва. Пры гэтым спрытна абмінаецца пытаньне, якая-ж частка гэных культурных дасягненьняў даецца народу ў ягонай роднай мове ды наагул у нацыянальнай форме.

Калі-ж цяпер паставіць пытаньне, ці ўзапраўды ў беларускага народу вытварылася пачуцьцё дзяржаўніцкага патрыятызму із самога факту існаваньня БССР ды ейных дасягненьняў, дык можна адказаць пазытыўна адно ў дачыненьні да некаторай часткі народу, дакладней — у дачыненьні да ягонай зрусыфікаванай культурна і асаветчанай інтэлігенцыі. Пачуцьцё некаторай нацыянальнай гордасьці за сваю, хай сабе намінальна адно незалежную дзяржаву ды за ейны, хай сабе й чыста фармальны выхад на міжнародную арэну ў гэнай частцы беларускага народу й інтэлігенцыі, пэўне-ж, ёсьць. Таксама бясспрэчнае ў гэнай частцы народу й пачуцьцё нацыянальнае гордасьці за індустрыяльныя дасягненьні й карысныя геалягічныя знаходкі ды культурнае разьвіцьцё, хоць у бальшыні выпадкаў і пазбаўленае навет беларускае нацыянальнае формы. Затое, як можна меркаваць на аснове розных дадзеных, гэны савецка-дзяржаўніцкі патрыятызм зусім чужы для асноўнай бальшыні народу.

На пытаньне, ці гэты савецка-дзяржаўніцкі патрыятызм можа заступіць нацыянальны патрыятызм, да чаго імкнецца партыя, адказ можа быць адно адмоўны. На аснове цэлае процьмы фактаў можна сьмела цьвердзіць, што пачуцьцё нацыянальнага патрыятызму сярод беларускага народу вельмі моцнае, хоць навонкі зь ведамых прычынаў яно незаўсёды паказваецца. Навет лаяльная да савецкае сыстэмы частка нацыянальнай інтэлігенцыі, перш-наперш творчае інтэлігенцыі, наважана патрабуе, каб БССР ува ўсіх сваіх дасягненьнях мела й свой нацыянальны характар прынамся згодна з прынцыпамі, распрацаванымі Леніна, і прынамся ў межах, загарантаваных Праграмай Камуністычнай партыі, бо ў практычным жыцьці гэныя прынцыпы й гарантыі сяньня, як ведама, ігнаруюцца.

**Ст. Станкевіч**

## ДА ЧЭСКА — БЕЛАРУСКІХ ДАЧЫНЕНЬНЯУ

Гісторыя паказвае, што дачыненьны паміж Вялікім Княствам Літоўскім, што было беларускім гаспадарствам, і чэскім народам былі вельмі добрыя. Чэхі прасілі Вялікага Князя Вітаўта, каб быў іхным каралём, а той прыслаў свайго сваяка Жыгімонта Карыбутовіча. Уладыслаў Ягайлавіч быў чэскім каралём. Франьцішак Скарына друкаваў у Празе свой пераклад Бібліі й быў каралеўскім гароднікам.

Пасьля настае зьмена. Чэхі й Славакі былі забраныя Аўстрыяцка-Вугорскай манархіяй. Вялікае Княства Літоўскае забранае Масквою, якая пашырае славянафільства. Пасьля Першай сусьветнай вайны беларускія студэнты студыявалі ў Празе, адзержуючы стыпэндыі ад Чэха-Славаччыны, мелі яны свабодна свае арганізацыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны, на канфэрэнцыі ў Сан Францыску, дзе была заснаваная Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў, прадстаўнік Чэска-Славацкай Рэспублікі, Ян Масарык, спрыяў рэпрэзэнтацыі БССР.

Пасьля ўзноў ціха. Што за прычына? Чаму толькі Славакі выступалі на беларускіх сьвяткаваньнях? Ці затым, што чуліся паняволенымі ў Чэха-Славацкай Рэспубліцы? Гэта зьмянілася. Цяпер Чэха-Славаччына фэдэратыўная рэспубліка. Ці затым ціха, што Чэхаславаччына ўважалася Сярэдняй Эўропай, тымчасам як Беларусь уважалі Ўсходняй Эўропай? Цяпер прэса ўважае ЧСР таксама Ўсходняй Эўропай, каб адрозьніць яе ад Заходняй (вольнай) Эўропы. Ці з прычыны славянафільства, г. зн. русафільства? І гэтага цяпер няма. Перад савецкай інвазіяй бальшыня не палітычных людзей ня была настаўленая супраць Расеі, хутчэй зьвінавачвалі сваіх камуністых. Калі-ж прэса ў СССР пачала нападаць на рэжым Дубчэка, добрых 80% народу зрабілася варожымі да Савецкага Саюзу. Каля 2% г. зв. карытнікаў і бюракратаў заняло пазыцыю чаканьня і публічна раілі не злаваць Саветаў. Пасьля інвазіі гэтыя далучыліся да лібэралаў.

Найноўшыя падзеі зблізілі абодвы нашыя народы ў змаганьню з бальшавізмам. Вялікалітва (Беларусь) як найбліжшы сусед Маскоўшчыны мае даўгую і багатую гісторыю ў гэтым змаганьню. Ад 12-га стагодзьдзя ў Беларусі былі частыя войны з Маскоўшчынаю. У вайну з Маскоўшчынаю 1654-1667 гг. было вялізарнае партызанскае змаганьне супраць маскоўскіх акупантаў. У тым-жа часе было Магілеўскае паўстаньне 1-га лютага 1661 г. на чале з бурмістрам Пара-Левановічам. Адлі былі паўстаньні ў Вялікаліцьве й Польшчы ў 1793 (Т. Касьцюшка), 1812, 1831 і 1863 (К. Каліноўскі) гадох.

Чым больш Расея пашыралася й няволіла народы, тым больш было змаганьня з паняволеньнем. Паўстаньне народаў Каўказу цягнулася цэлае стагодзьдзе, спынілася, як Расея пачала нішчыць безбаронныя сёлы. Астаткі гэтых народаў працуюць у Вольным Сьвеце супраць Расеі. Паўстаньне ў Усходняй Нямеччыне, Польшчы, Вугоршчыне. Інвазія Чэхаславаччыны. Прыходзяць у думку словы псальмісты: „Спадару, як доўга будзеш глядзець на гэта?" Пс. 35, 17. „Абярніся, Спадару! Пакуль? Пажалей слугаў Тваіх." Пс. 90, 12.

Людзі абодвух народаў, чэскага й беларускага, маюць цікавіцца справамі іншых паняволеных народаў і памагаць ім. Як што Чэхі маюць больш магчымасьцяў, можна вымагаць ад іх больш. З гэтага ня будзе жаднаму народу шкода, але наадварот, абодвы знойдуць у сьвеце пашану. Супольнымі сіламі лягчэй дапяць праўды, чымся паасобку.

**М. Ст.**

## КАНГРЭСМЭН ДЖОН М. МАРФІ



На зьмешчаным вышэй фото мы бачым выступленьне з прывітальнай прамовай Кангрэсмэна Джона М. Марфі ад 16 выбарнага дыстрыкту Нью Ёрку на ўрачыстым сьвяткаваньні ў Нью Ёрку 51-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У прамове сваёй Кангрэсмэн Марфі запэўніваў, што Амэрыка, як і дагэтуль, будзе й далей весьці палітычнае змаганьне за свабоду, людзкую й нацыянальную годнасьць ды за права на самавызначэньне ўсіх паняволеных народаў, у тым ліку й беларускага народу.

Ягонае выступленьне на нашым нацыянальным сьвяце было вялікім гонарам для нас Беларусаў, бо Кангрэсмэн Марфі — ня толькі аўтарытэтны прадстаўнік Дэмакратычнае Партыі, але й наагул заслужаны й шырока ведамы амэрыканскі грамадзкі й палітычны дзеяч. Ён палажыў немалыя заслугі ў кірунку ўнармаваньня і ўпарадкаваньня публічнага жыцьця Нью Ёрку: ён інтэнсыўна й наважана змагаецца супраць усякіх беспарадкаў, хаосу й дэмагагічных дэманстрацыяў часткі моладзі, што апошнім часам мелі месца ў Нью Ёрку.

Найбольшая заслуга Кангрэсмэна Марфі для нас тая, што ён пераканана й наважана падтрымлівае ў Кангрэсе ЗША й вонках Кангрэсу нацыянальна-вызвольныя імкненьні паняволеных камунізмам народаў. На вялікай маніфэстацыі ў часе Тыдня Паняволеных Народаў перад Статуяй Свабоды ў Нью Ёрку ў ліпені 1966 году Кангрэсмэн Джон М. Марфі, выступаючы як адзін з галоўных прамоўцаў, заклікаў амэрыканскае грамадзтва падрымліваць нацыянальна-вызвольныя імкненьні паняволеных народаў.

## ДРУГІ УНІВЭРСЫТЭТ У БССР

Як паведаміла ў красавіку менская прэса, з пачаткам 1969-70 навучальнага году адчыняецца ў Гомелі на базе дасюлешняга Пэдагагічнага інстытуту імя Чкалава Гомельскі Дзяржаўны Унівэрсытэт, які будзе ўжо другім у БССР пасьля Менскага Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту імя Леніна.

Як паінфармаваў міністар вышэйшай і сярэдняй спэцыяльнай адукацыі БССР М. Мяшкоў, рэктарам Гомельскага ўнівэрсытэту назвначаны Уладзімер Белы, сябра-карэспандэнт Акадэміі навукаў БССР, дацэнт, кандыдат тэхнічных навукаў. Унівэрсытэт будзе мець 7 факультэтаў: гістарычна-філялягічны, мэханічна-матэматычны, фізычны, біялягічна-глебавы, геалягічны, эканамічны й факультэт фізычнага ўзгадаваньня.

Унівэрсытэт мае рыхтаваць гісторыкаў, выкладчыкаў беларускай і расейскай мовы й літаратуры, матэматыкаў, фізыкаў, біялёгаў, спэцыялістых у галіне гідралёгіі, інжынернай геалёгіі, арганізацыі мэханізаванай апрацоўкі эканамічнай інфармацыі, эканомікі працы, выкладчыкаў фізычнага ўзгадаваньня.

З адчыненьня новага ў БССР унівэрсытэту заставалася-б адно цешыцца, калі-б ня факт, што ён станецца новай кузьняй русыфікацыі. Як ведама, выкладаньне ўва ўсіх вышэйшых навучальных установах БССР вядзецца, як правіла, толькі ў расейскай мове. У беларускай мове вядзецца адно выкладаньне, і то ня ўсімі выкладчыкамі, беларускай мовы й літаратуры.

## БЕЛАРУСЬ У БЮЛЕТЭНІ ЮНЭСКО

„Бюлетэнь ЮНЭСКО" (паангельску „ЮНЭСКО Фічэрс") выходзіць што два тыдні ў ангельскай і францускай мовах. Рэдчас у ім друкуюцца матар'ялы й пра Беларусь паданыя туды органамі БССР.

Гэтак, у № 539, б. 16 за лістапад леташняга году была зьмешчаная інфармацыя пра нумізматычныя багацьці беларускае зямлі, гэта значыць пра скарбы старажытных манэтаў. Матар'ял, апублікаваны ў „Бюлетэні ЮНЭСКО", быў пераказам дакладу М. Мінковіча, кіраўніка беларускае дэлегацыі на агульнай канфэрэнцыі ЮНЭСКО.

У нататцы да артыкулу кажацца, што рэдакцыя „Бюлетэню ЮНЭСКО" можа выслаць на запатрабаваньне здымак-ілюстрацыю пра знаходкі старадаўных скарбаў.

У № 544 „Бюлетэню ЮНЭСКО" (люты 1969 г.) зьмешчаны артыкул А. Алексанкіна, міністра водных шляхоў і мэліярацыі БССР, пра Палесьсе й асушальныя работы. У артыкуле кажацца, што, паводля вылічэньняў эканамістых, 3,7 міліёна акраў асушанае палескае зямлі могуць пракарміць 6 міліёнаў чалавек ды што, калі асушыць цэлае беларускае Палесьсе, дык адно гэныя асушаныя землі здолеюць даць харчоў, каб пракарміць утрая больш людзей, чымся ў сучаснай БССР, якая налічвае 9 міліёнаў чалавек.

Там-жа зьмешчаныя й некаторыя факты пра Беларускую ССР. Як падаецца ў „Бюлетэні ЮНЭСКО", БССР — адзіная савецкая рэспубліка, што не аднавіла йшчэ даваеннага ўзроўню свайго жыхарства (у часе Другое сусьветнае вайны загінуў кожны чацьверты жыхар Беларусі).

БССР, піша далей „Бюлетэнь", займае другое месца ў Савецкім Саюзе ў вытворчасьці грузавых аўтамабіляў, трактараў, матацыкляў і гадзіньнікаў. У БССР цяпер працуюць 28 вышэйшых навучальных установаў, 126 тэхнікумаў і 185 дасьледніцкіх цэнтраў.

Савецкія органы інфармацыі, што падалі гэтыя дадзеныя ў ЮНЭСКО, нажаль „забылі" дадаць, што пры ўсіх сваіх дасягненьнях БССР і дасюль пазбаўленая права выдаваць свой моўны, гістарычны ці краяведны часапісы, ня мае права навет на каляндар у сваёй нацыянальнай мове, ня кажучы ўжо пра нястачу беларускіх тлумачальных слоўнікаў або беларускіх слоўнікаў замежных моваў, недазваляных у мэтах як мага інтэнсыўнейшае русыфікацыі.

У тым-жа нумары „Бюлетэню ЮНЭСКО" (№ 544, б. 23) зьмешчаная даведка пра беларускае Палесьсе ды характар жыцьця ў ім, абумоўлены шырокімі вясеньнімі разьлівамі 123-х прытокаў Прыпяці.

Там-жа, у васобнай даведцы (бб. 23-24) пішацца й пра Белавежу ды ейнае зьвярынае царства, у тым ліку й пра зуброў (якіх цяпер налічваецца да 150 галоваў). Згадваецца й трава зуброўка, што ўжываецца для настойваньня гарэлкі, з гэткім цікавым паясьненьнем: „Наўсуперак таму, што можна было-б падумаць, трава зуброўка не належыць да ўлюбёнага корму зуброў: зубры фактычна да яе ніколі й не дакранаюцца".

# ШТО ВАША – ТО Й НАША

**(ДА ПЫТАНЬНЯ БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКІХ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ)**

На кароткую зацемку пра хвальшаваньне праўды тымі ўкраінскімі часапісамі, што пісалі, быццам Літоўскі Статут „напісаны ўкраінскай мовай" (БЕЛАРУС, № 141), доўгім артыкулам зарэагаваў у газэце „Свабода" (28. III. 69) сп. В. Чапленка. Выступіў ён у вабароне ўкраінскага права да Літоўскага Статуту хоць і на прынцыпе ўжо ня вылучнасьці, а „супольнасьці" зь Беларусамі. Аўтар пры нагодзе й „падарозе" ўзьняў і ня зьвязаную з гэтым пытаньнем справу ўкраінскай „крыўды": чаму гэта „этнаграфічна ўкраінскі край", Берасьцейшчына ды Піншчына, далучаныя да Беларускай, а не Ўкраінскай СССР? Паколькі разважаньні сп. Чапленкі адбіваюць пагляды й некаторых іншых ягоных суродзічаў, не пашкодзіць уважней іх разгледзіць, і пачнем якраз з „крыўды".

Сам сп. Чапленка прызнае, што не Беларусы вызначалі мяжу БССР з УССР, а Масква, і, калі-б мяжа гэтая аказалася недзе недакладнай, да Масквы трэ было-б і кіраваць яму свае скаргі. Ды аўтар дабачвае тут усё-ж і беларускі „імпэрыялізм", бо чаму Беларусы не пратэстуюць супраць такое, спрычыненае Ўкраінцам „несправядлівасьці й крыўды"? Паводля сп. Чапленкі, „на мапах і ў навуковых працах скрозь і ўсюды" гэтая тэрыторыя азначаецца як украінская.

Ды нам ведама шмат „мапаў і навуковых працаў", дзе землі гэтыя ўважаюцца якраз за этнаграфічна беларускія, а таксама ведамая й галоўная прычына гэтага разнабою. У васнове ўсіх гэтых картаў, калі быць дакладным, ляжыць зусім ня нейкая „этнаграфія", бо ведама, што сваімі этнаграфічнымі асаблівасьцямі вышэй згаданыя землі блізу ідэнтычныя якраз зь беларускім прасторам. Дык справа тут не ў „этнаграфіі", а ў тым, што свае „этнаграфічныя" лініі разьмежаваньня двух народаў некаторыя аўтары намагаліся правесьці на моўнай толькі аснове ды там, дзе ніякое лініі моўнага падзелу наагул няма, а толькі шырокая, на колькідзесят кілямэтраў, паласа пераходных гаворак, паасобныя моўныя зьявы ў якіх паволі нікнуць, ці нарастаюць, у залежнасьці ад таго, ці пасоўваемся мы на поўдзень, ці на поўнач. У выніку, беларускія моўныя асаблівасьці моваведы знаходзяць навет і на паўночнай Валыні, а паасобныя моўныя рысы, што ўважаюцца за характэрныя мове ўкраінскай, можна сустрэць і на поўначы ад сучаснай беларуска - ўкраінскай дзяржаўнай мяжы. Вось гэта й дае магчымасьць розным аўтарам вельмі розна вызначаць свае „этнаграфічныя" межы, у залежнасьці ад таго, якую моўную асаблівасьць нехта сабе выбярэ за выходную.

Ведама, што пры разьмежаваньні нейкае тэрыторыі між двума народамі трэба заўсёды, і найперш, браць на ўвагу самае нацыянальнае самапачуцьцё жыхарства дадзенае тэрыторыі. Калі йдзе пра Берасьцейшчыну ды Піншчыну, дык хоць яны ў 1920-х гадох былі пад куды мацнейшым узьдзеяньнем нацыянальнае прапаганды добра арганізаванага ўкраінскага друку ды ўкраінскіх арганізацыяў з Львова, чым шмат сьціплейшага друку беларускага зь Вільні, яны ўсё-ж пакрыліся тады густой сеткай гурткоў Таварыства Беларускае Школы ды розных іншых арганізацыяў беларускіх, а не ўкраінскіх. Гурткі гэтыя існавалі й дзеялі да часу, пакуль іх пазьней не разграміла ды не паліквідавала паліцыйным спосабам польская адміністрацыя.

Дык само жыхарства Берасьцейшчыны ды Піншчыны выказала масава й ясна сваё нацыянальнае самапачуцьцё яшчэ доўга перад тым, як Масква правяла там мяжу між БССР і УССР, і неабаснаваная таму трывога сп. Чапленкі, што па беларускім боку гэтае мяжы людзям дзеецца нейкая „крыўда", што ‚супроць волі" там „робяць іх Беларусамі".

Калі-ж аўтар, як на „довад" украінскасьці Піншчыны, паважна паклікаецца на факт паходжаньня стуль аднаго адзінага ўкраінскага паэты (хоць і ён, на вялікі жаль, колькі гадоў таму памёр), дык на гэта можна адказаць, што на кажнага ўкраінскага паэту, што паходзіў або паходзіць зь Піншчыны ці й усяго Палесься, якога сп. Чапленку ўдасца знайсьці, можна падаць ня менш дзесяцёх паэтаў і пісьменьнікаў беларускіх тамашняга паходжаньня.

Што да Літоўскага Статуту, дык паводля сп. Чапленкі „так пісаць пра ўрадавую мову Вялікага Княства Літоўскага, як напісалі згаданыя ўкраінскія газэты, што гэта, быццам, мова ўкраінская, ня можна, але ня можна яе называць і толькі беларускай". Ён прыймае за слушнае становішча тых аўтараў, што ўважаюць яе за мову „беларуска-ўкраінскую". паколькі яна ўжывалася тады на землях і Беларусі, і Ўкраіны. Аснова гэтае мовы была, быццам, царкоўнаславянская, а дзеля царкоўнаславянскага й правапісу, у ёй ня былі адбітыя й гэткія фанэтычныя асаблівасьці, як беларускае аканьне-яканьне, ці ўкраінскае іканьне.

Літоўскі Статут ува ўсіх трох сваіх рэдакцыях складаўся ў сталіцы Вялікага Княства, у Вільні, ці бо палітычна-культурным асяродку далёкім ад украінскіх этнічна земляў і нейкіх паважнейшых іхных уплываў. Быў ён пісаны мовай, якая ад колькіх ужо стагодзьдзяў разьвівалася пад беспасярэднім уплывам гутаркавае мовы беларускай этнічна тэрыторыі, прасторы, што станавіла нацыянальна-культурнае ядро ўсяго Вялікага Княства. Мова-ж канцылярыі вялікага князя, „гаспадара" дзяржавы, мова ўрадавая, хоць і зараджалася спачатку на базе кніжнае мовы царкоўнаславянскае, ды гаварыць пра „царкоўнаславянскую" яе аснову ў стагодзьдзі XVI-м, стагодзьдзі статутаў, як гэта робе сп. Чапленка, няма ніякіх падставаў, бо ня шмат царкоўнаславяншчыны тады ў ёй ужо засталося.

Калі-б, для прыкладу, запытацца ў сп. Чапленкі, што й колькі царкоўнаславянскага ў ведамым артыкуле Літоўскага Статуту „А пісар земскі . . .", увесь тэкст якога ён прыводзіць, дык сп. Чапленка напэўна будзе ў клопаце паказаць, дзе тут ня тое каб „аснова", але якія-небудзь царкоўнаславянскія элемэнты наагул. За колькі стагодзьдзяў свайго разьвіцьця мова вялікакняскае канцылярыі гэтак „настоялася" ў навакольным моры мовы беларускай, пераняла ў фанэтыцы, марфалёгіі, лексыцы, сынтаксе гэтулькі беларускага, што пра яе „царкоўнаславянскасьць" сяньня паважна не гавора ніхто з тых моваведаў, што глыбей яе вывучалі.

Праўду кажа сп. Чапленка, што ў мове статутаў не адбітае ні беларускае аканьне-яканьне, ні ўкраінскае іканьне. Ды важна адначасна ўсьведамляць, што прычыны іхнае там адсутнасьці дыямэтральна супрацьлежныя. Іканьня ў мове Літоўскага Статуту няма й не магло быць, бо ні ў Вільні, ні на вялізных прасторах навакольных беларускіх земляў, ніхто ніколі ня ікаў. Ня „ікалі" ні Леў Сапега, ні Аўстахі Валовіч, ні іншыя рэдактары статутаў. Дзеля гэтага яно й не магло трапіць у мову статутаў.

Затое добра ведама — на гэта маем тысячы довадаў — што Беларусы й Вільні, і Віленшчыны, і далейшых ад іх земляў, акалі тады, як акаюць і сяньня. Калі-ж гэтае аканьне ў Статуце не перададзенае, дык толькі дзеля традыцыйных, што разьвіваліся з царкоўнаславяншчыны, правапісных нормаў канцылярыйнае мовы Вялікага Княства. Само неперааданьне дзеля гэтых правапісных нормаў аканьня ня значыць, што яго тады ў гэтай мове й ня было, як з факту неперадаваньня аканьня правапісам расейскім зусім не вынікае, што ня мае свайго аканьня сучасная літаратурная мова расейская.

Дык у мове канцылярыі Вялікага Княства, у мове статутаў, знайшоў свой адбітак гістарычны факт, што этнічнай, моўнай ды культурнай базай Вялікага Княства быў народ беларускі. У часе-ж укладу найбольш дасканалае трэйцяе рэдакцыі Статуту 1588 г. ніякіх украінскіх земляў у межах Вялікага Княства ўжо наагул ня было. Тыя-ж этнічна ўкраінскія прасторы, што ўваходзілі ў ягоны склад перад гэтым, былі ў ім далёкімі „акраіннымі" правінцыямі, што ў жыцьці дзяржавы ня мелі ніколі таго палітычнага й культурнага значаньня, як цэнтральныя землі беларускія.

Называць-жа ўрадавую мову Вялікага Княства „беларуска-ўкраінскай" на тэй падставе, што яна адміністрацыйна забавязвала й на прасторах этнічна ўкраінскіх правінцыяў дзяржавы, ёсьць столькі-ж асноваў, як называць яе „беларуска-жамойцкай", бо й на тэрыторыі Жамойці яна скрозь тады ўжывалася, аб чым сьветчаць тысячы пісаных там гэтай мовай актаў ды дакумэнтаў .

Вось дзеля ўсяго гэтага няма-ніякіх аб'ектыўных падставаў для азначаньня беларускай канцылярыйнай мовы Вялікага Княства, якой напісаны Літоўскі Статут, як мовы „беларуска-ўкраінскай", як гэта ласкава суліць сп. Чапленка. Ды й прапанова гэтая ніякая не навіна. Гэта — старая ды даўно ведамая галіцыйская „традыцыя". Яшчэ ў мінулым стагодзьдзі заўважыў яе выдатны расейскі гісторык літаратуры й этнограф А. Пыпін, які пісаў: „Галіцкія гісторыкі ўважаюць Літоўскі Статут, дзейнасьць Скарыны, ды іншае, за спадчыну свае літаратуры". Тады-ж ён яе й адкінуў пастулятам самое лёгікі, што „Факты, якія адбываліся ў Вільні, ня можна прыпісваць Львову". Паколькі гэтую старую галіцкую канцэпцыю сп. Чапленка суліць цяпер Беларусам, цікава прыгледзецца на прыкладах, як у ўкраінскай практыцы выглядае гэты, запрапанаваны сп. Чапленкам, „кампраміс".

І. Огіенка ў сваёй „Гісторыі ўкраінскага друкарства", што была выдадзеная ў 1925 г. у Львове Навуковым Таварыствам Шэўчэнкі, у разьдзеле „Беларуска-ўкраінскія друкарні", разглядае ўсе беларускія друкарні як складовую частку гісторыі ўкраінскага друку. Гэтым разьдзелам ахопленыя Скарынава ды ўсе іншыя друкарні віленскія, друкарня нясьвіская, заблудаўская, цяпінская, магілеўская, супрасьльская, друкарня ў Еўі пад Вільняй, ды ўсе іншыя, якія толькі аўтару на землях Беларусі былі ведамыя.

А што гэткае трактаваньне беларускага культурнага мінулага ня нейкі прыпадак ці вынятак, відаць з таго, што паўтараецца тое самае й у іншых украінскіх публікацыях, для прыкладу, у выдадзенай колькі гадоў таму ў ЗША паўкраінску ды паангельску кніжцы Л. Вынара „Гісторыя раньняга ўкраінскага друку". Там, у разьдзеле друкарняў „украінска-беларускіх" ахопленыя ўсе друкарні віленскія, друкарня заблудаўская, нясьвіская, цяпінская.

Кур'ёзна пры гэтым тое, што калі ўсе друкарні Беларусі, як і ўсе надрукаваныя ў іх кнігі, вышэй згаданыя аўтары азначаюць як „беларуска-ўкраінскія", і на гэтай падставе забіраюць іх гуртам у гісторыю ўкраінскае культуры, пра друкарні на землях Украіны, львоўскія, кіеўскія, ці іншыя, ні Огіенка, ні Вынар ня пішуць, што яны — „супольная" зь Беларусамі спадчына ды „ўкраінска-беларускімі" іх не называюць! З гэтага ясная й ўся дасужная лёгіка таго „гістарыяграфічнага прынцыпу", які ўжыты пры трактаваньні памятак беларускае пісьменнасьці й культуры: што ваша, то й наша, але што наша, то ня ваша.

Ці гэтага дакладна прынцыпу трымаецца й сп. Чапленка, зь ягонага артыкулу ня зусім ясна. Магчыма, пасьля свае прапановы ўважаць памяткі старое беларускае пісьменнасьці за супольныя „беларуска-ўкраінскія", ён, каб быць пасьлядоўным, і ўсе памяткі тае пары, што паўсталі ў Львове ці Кіеве, стане цяпер называць не памяткамі ўкраінскімі, а „ўкраінска-беларускімі". Было-б цікава пачуць становішча сп. Чапленкі ў гэтым пытаньні ад яго самога.

Дый арыгінальны, што й казаць, „прынцып", каб дзяліцца гісторыяй і культурнымі здабыткамі народу беларускага, але не ўкраінскага, некаторыя ўкраінскія аўтары на свой спосаб „спрашчаюць". Вось колькі прыкладаў, і ня зь нейкіх там ананімных газэтных зацемак, а з публікацыяў украінскіх навукоўцаў:

Ол. Ярэмчэнка, Львоў, 1923 г.: „Скарына ці раз зазначае, што ён „руський", значыцца Ўкраінец. . . ."

І. Мірчук, у 1937 г.: „Скарына . . . нарадзіўся ў Полацку. Перакладаў Біблію на стараўкраінскую мову . . . разьвіў жывую выдавецкую дзейнасьць таксама й на Ўкраіне. А. Сокальшын у 1959 г. у Нью-Ёрку: „Скарына... адзін з трох карыфэяў пачаткаў украінскага друку й украінскае культуры наагул".

Гэткія й падобныя прыклады прыводзіць можна без канца. Да іх належаць і тыя зацемкі ўкраінскіх часапісаў, на якія была рэакцыя ў „Беларусе". Дык ланцуг „лёгікі" старое галіцкае канцэпцыі просты: называньне мовы старое беларускае пісьменнасьці „супольнаю" дае прэтэкт да загортваньня да гісторыі Украіны, як „украінскіх", і ўсяго старога беларускага пісьменства, усіх твораў, кнігаў, ды іх аўтараў. Паколькі-ж кнігі пачалі з часам друкаваць, дык трэба забраць, як „украінскія", і ўсіх друкароў, выдаўцоў ды ўсе друкарні Беларусі. Ад гэтага-ж ужо адно крок, каб забыцца пра ўстаноўленую самымі-ж тэзу аб „супольнасьці", ды называць усё коратка й проста „ўкраінскім".

Лёгка зацеміць, што пры захопе, як „украінскага", усяе паголоўна культурнае мінуўшчыны Беларусі, ад Заблудава ды Супрасьля на захадзе, Вільні ды Полацка на поўначы й Магілева ды Смаленска на ўсходзе, Беларусам не пакідаецца ўжо ня толькі ніякіх памятак свае культуры, ні пісьменьнікаў, ні дзеячоў, ні гісторыі, але ніякое й свае тэрыторыі. Застаецца адна „вялікая Ўкраіна". Ня дзіва, калі чытаючы творы падобнае „імпэрыяльнага" размаху фантазіі, у Беларусоў і паўстае ўражаньне, што „брат" з паўдня, як і той другі з усходу, калі ход пра беларускую гісторыю й тэрыторыю, менш як усім не здаволіцца.

Калі сп. Чапленка, які сябе называе шчырым прыяцелем Беларусаў, гэта ўсё знае й бачыць, хай-бы ён найперш і зьвярнуўся з артыкуламі да сваіх суродзічаў з выясьненьнем усяе неадпаведнасьці падобнага „суседзкага" паступаньня ды з заклікам да ацьверезеньня й утаймаваньня апэтытаў, заміж пісаць даўгія павучальна-паясьняльныя звароты да Беларусаў з тае толькі прычыны, што нехта зь іх голасна ў друку пра гэта згадаў.

Лёгка заўважыць, што мэтады ды мэты „навуковае" й ненавуковае дзейнасьці некаторых нашых суседзяў з паўдня нагадваюць дакладна тых аўтараў расейскіх, што ўсе памяткі й усю гісторыю й беларускага, і ўкраінскага народаў на правох „супольнасьці" заграбаюць для Расеі й народу расейскага. Бяручы на ўвагу вышэй прыведзеныя факты, хіба сп. Чапленка згодзіцца, што Беларусы маюць дастаткова падставаў і прычынаў, каб адчуваць наяўнасьць і „другога" старэйшага брата. А падабенства іхнае ўразьлівае. Не зважаючы на ўсе запярэчаньні гэтага з боку ўкраінскага, выглядае, што браты запраўды „родныя".

**А. Будзіч**

## МЭДАЛЬ НА 10-ЫЯ УГОДКІ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ



Камітэт Прыяцеляў Паняволеных Народаў выдаў юбілейны мэдаль з нагоды 10-х угодкаў абвешчаньня Прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам Тыдня Паняволеных Народаў.

Дасканальна выкананы мэдаль — работы скульптара Трыгвы А. Ровэльстада — мае з аднаго боку бюст Прэзыдэнта Айзэнгаўэра, акружаны 28 зоркамі, што сымбалізуюць паняволеныя народы. З другога боку мэдаля — сьветач Статуі Свабоды, як знак свабоды для народаў па цэлым сьвеце, з напісам, узятым з Закону 86-90, што ўпаўнаважвае Прэзыдэнта: „Прэзыдэнт . . . абвяшчае... праклямацыю кажнага году аж пакуль . . . свабода й незалежнасьць ня будуць здабытыя для ўсіх Паняволеных Народаў сьвету".

Мэдаль, дыямэтрам паўтары цалі (інчы), выбіты ў серабры й бронзе. Цана сярэбранага — 10 даляраў, бронзавага — 2,50 д. Сярэбраныя мэдалі выдадзеныя ў ліку 10 тыс. і ўсе нумараваныя. Лік бронзавых не абмежаны. Дзьве тысячы нумараваных камплектаў мэдаля, што складаяцца з аднаго сярэбранага й аднаго бронзавага, могуць быць набытыя цяпер ужо па зьніжанай цане. Рэшта-ж пойдзе ў продаж у пачатках ліпеня сёлета.

Ува ўсіх справах, зьвязаных з набыцьцём юбілейнага мэдаля Паняволеных Народаў трэба зварачацца на наступны адрыс:

Captive Nations Friends Committee,
4146 N. Elston Ave.,
Chicago, Illinois 60618

## АГУЛНЫ ГАДАВЫ СХОД БАЗА Ў НЬЮ ЁРКУ

У нядзелю 18 траўня ў залі Беларуска Грамадзкага Цэнтру ў Брукліне адбыўся Агульны Гадавы Сход Акруговага Аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку. Старшынём Сходу быў выбраны д-р Ул. Набагез, сакратарамі сп-ня В. Запруднік і М. Кунцэвіч.

У справаздачы, зробленай старшынём уступаючай Управы М. Тулейкам, заслугоўвала на асаблівую ўвагу дзейнасьць Беларускае Нядзельнае Школы пад кіраўніцтвам сп. А. Шукелайця ды некаторыя культурныя й нацыянальна-грамадзкія імпрэзы, як удзел у леташнім Тыдні Паняволеных Народаў, леташнія ўгодкі Слуцкага Паўстаньня, сёлетнія ўгодкі Акту 25 Сакавіка, сёлетні Дзень Маці й інш. Бяручы ўсё гэта на ўвагу, Сход на прапанову Рэвізійнае Камісіі прызнаў уступаючай Управе абсалюторыюм з падзякаю.

У новую Ўправу Аддзелу БАЗА былі выбраныя: сп. сп. М. Тулейка — за старшыню, за сябраў Управы — В. Станкевіч, А. Шукелайць, М. Міцкевіч і В. Міцкевіч, канкрэтныя функцыі між якімі будуць падзеленыя на першым паседжаньні Управы. У Рэвізійную Камісію выбраныя: сп. сп. П. Міраловіч, Я. Груцько й П. Манькоўскі. Тады былі выбраныя дэлегаты на 13-ты Кангрэс БАЗА.

У вабмяркоўваньні пляну дзейнасьці на будучыню прысутныя сьцьвердзілі поўны заняпад арганізацыі беларускае моладзі ў Нью Ёрку й адсутнасьць усякае нацыянальнае дзейнасьці сярод яе. Выказваліся пажаданьні, каб арганізаваная дзейнасьць моладзі й з моладзяй была ўсё-ж наладжаная.

### ДЗЕНЬ МАЦІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЕ У НЬЮ ЁРКУ

У Беларускай нядзельнай школе ў Нью-Ёрку ў нядзелю 11-га траўня сёлета было ўшанаванае найпрыгажэйшае гадавое сьвецкае сьвята — Дзень Маці. Каля 80 асобаў — старэйшых і малодшых — зыйшлося ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне, каб паслухаць ды паглядзець, якімі прыгожымі й цёплымі словамі — сваймі собскімі, а таксама словамі былых і сучасных паэтаў Беларусі — наймалодшае пакаленьне выказвае сваю любасьць да тае, хто корміць і поіць, і даглядае, і настаўляе, хто дае веду й фармуе характар — Маці.

Праграму, зрыхтаваную пад кіраўніцтвам настаўніцы сп-ні Н. Орсы, вялі самі вучні, зьмяняючы адзін аднаго, падаючы адзін пра другога кароткія ўступныя словы. Шмат хто з гледачоў на залі быў зьдзіўлены багацьцем і прыгожосьцяй вершаў у беларускай паэзіі, напісаных пра маці й для маці.

З дэклямацыямі, а таксама сваймі ўкладаньнямі-зваротамі да маці, у праграме сьвяткаваньня выступілі: Ніна Запруднік. Юрка Драздоўскі, Алеся Кіпель, Ніна Норык, (яна-ж грацыёзна выканала танец „Вясна").

Своеасаблівым удзелам у сьвяткаваньні адзначыўся Юрка Драздоўскі, які, падрыхтаваны настаўнікам сп. Б. Данілюком, вельмі прыгожа прачытаў Апостола ў часе багаслужбы.

Смачны пачастунак за супольнымі сталамі прыемна суправаджаў сьвяткаваньне Дня Маці — сьвяткаваньне, што дало нагоду выказаць свае пачуцьці, а старэйшым — маральнае задаваленьне й адчуваньне цягласьці пакаленьняў, у якой Маці — галоўнае лучво.

**Я. З.**

